DISTRICTUS

# ПАВЕТ

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 2 (39) САКАВІК 2005 г.

# 25 САКАВІКА - ДЗЕНЬ ВОЛІ

## 1918 БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА 2005

Ад нас хавалі доўга гэту дату –
Яе над ямай крываніў сьвінец,
Яе таптали ў бруд, ламалі кратай,
Душылі дротам, мерзлатою клятай.
Сьмех супастатаў цешыўся: "Канец!"

Імпэрцы так сьпяшаліся з канчынай,
Каб расплодзіць беспамятства рабоў.
Ды за плячыма ў даты той – Айчына,
У курганах сівых, у збройных чынах,
Дзе – паласой па белым – наша кроў.

*Мікола Арочка*

Газета «Вольная Беларусь» з тэкстам Трацяй Устаўной граматы БНР

Шыльда вайскова-дыпламатычнай місіі БНР

Пячаткі дзяржаўных установаў БНР

# ВЕСТКІ

У лютым у Браслаўскай Свята-Успенскай царкве выстаўляўся цудадзейны абраз Божай Маці "Призри на смирение", прывезены з Украіны.

Першая аб'ява абраза – 1420 год. Ікона па паходжанню – са Пскова. Абраз з'явіўся ў сувязі з голадам. Ён згадваецца ў "Другім Пскоўскім летапісе". На сённяшні дзень яна знаходзіцца ў храме Кіеўскага Свята-Уводзінскага мужчынскага манастыра. Існуе ў храме з 1992 года.

Абраз з'ўляецца цудадзейным: вядомы выпадкі аздараўлення невылечна хворых людзей, пазбаўлення захворванняў сардэчна-сасудзістага, анкалагічнага напраўкаў.



20 лютага ў Музеі традыцыйнай культуры адбылося адкрыццё мастацкай выставы "У чаканні вясны".

Выстава мастакоў клуба "Ля возера", што існуе пры Браслаўскім аб'яднанні музеяў, з'ўляецца традыцыйнай і праводзіцца штогод. На ёй мастакі прадстаўляюць свае лепшыя творы, надводзяць вынікі працы за год . Сёлета выстава носіць назву "У чаканні вясны", якая адпавядае агульнаму настрою твораў удзельнікаў і адчуванню гледачоў.

У выставе прымалі удзел сем мастакоў, якія працуюць у розных тэхніках і накірунках мастацкай творчасці. Ян Антонавіч Рыдзіка, Пётр Шукель аддаюць перавагу алейнаму жывапісу, Цеафан Баркоўскі і Галіна Ставіцкая працуюць у тэхніцы акварэлі, Алена Бялусь, Ірэна Тушканава і Вітольд Паўлюкевіч займаюцца графікай.



У іх творчасці прадстаўлена і жанравая разнастайнасць. Есць тут і пейзаж, і нацюрморт і гістарычныя палотны. Што аб'ядноўвае нашых масткоў, дык гэта любоў да Браслаўшчыны. Амаль усе яны ў захапленні ад родных краявідаў, ад знаёмага з дзяцінства стрыманага каларыту паўночнай Беларусі, ад самабытнай традыцыйнай культуры нашага рэгіёну.

Ёсць яшчэ адна агульная рыса ў мастакоў-удзельнікаў выставы – усе яны па прафесіі настаўнікі. Яны працуюць у школах Браслава і раёна, дзе перадаюць вучням свае майстэрства.

Яна Шыдлоўская

**Дзякуй**

У маленькай вёсачцы жыла маленькая дзяўчынка, у якой была маленькая звычка заўсёды казаць: "Дзякуй".

Дома, у краме, на полі, у лесе ці проста на вуліцы, гэтае слова было побач. Дзяўчынка дарвала яго людзям, нічога не патрабуючы дзеля сябе. І гэтае слова было ў кожнага чалавека з вёскі, у кожнага дрэва, што стаіць паабапал дарогі, у сонца, у неба, у рэчкі, у вясёлкі!

Бацькі навучылі яе дзякаваць Богу, за хлеб, за зямлю, за жыццё.

І кожную раніцу дзяўчынка казала дзякуй краіне, у якой нарадзілася, за тое, што яна тут жыве, што тут яе бацькі, і дрэвы паабапал дарогі, і сонца, і рэчка, і неба і людзі!..

**Кніжка**

Гэтая кніжка была куплена яшчэ ў савецкі час за паўтары рублі. Пакрытая пылам, схаваная ад вачэй у самым дальнім кутку шафы, амаль два дзесяцігоддзі прастаяла яна. У доме засталіся двое старых, якія валодалі не вельмі добрым зрокам. Таму пра кнігі яны ўспаміналі зрэдку. Дзеці даўно ўжо выраслі і з'ехалі жыць у горад.

Прыйшло лета. Прыехалі дзеці, а разам з імі – унукі. Маленькія ручкі змахнулі пыл са старой кнігі. Цікаўныя вочы ўглядаюцца ў назву. "Бабуля, прачытай!" Назва кнігі "Беларускія народныя казкі".

"Бабуля, а хто такія беларусы?"

"Беларусы – гэта я, твой дзядуля, твае мама і тата. Мы ўсе нарадзіліся тут. І тут наша Радзіма".

# Словы святыя ...

**Мір без маці**

Дзіцячы дом святкаваў гэтай восенню сваё дванаццацігоддзе. Гэта быў велізарны шэры будынак з вялікімі няўтульнымі вокнамі і шэрым дахам. Вакол дома раскінуў свае зялёныя рукі вялікі прыгожы сад. Каля дома мітусіліся сотні аднолькавых хлопчыкаў і дзяўчынак. У садзе стаялі доўгія сталы з вялікай колькасцю ежы і ліманада. Гучала музыка. Перад домам утварылася велізная калейка з машын. Людзі ехалі з падарункамі: лялькамі, машынкамі, каляровымі алоўкамі, мяккімі цацкамі, роварамі, цукеркамі і жвачкамі.

Прагучалі словы дырэктара. Пачаліся танцы, гульні. Дзецям раздалі падарункі. Госці гулялі па садзе.

Маладая пара ішла ўтульнай алейкай. Раптам іх увагу прыцягнула маленькая дзяўчынка, яна сядзела адна і зусім без падарунка.

"Дзяўчынка, што табе падараваць?"- спыталі людзі.

"Маму,"- пачулася ў адказ.

**Туга**

Яна вельмі любіла сваю краіну і таму доўга пакутавала ад неабходнасці з'ехаць. Чалавек, якога яна кахае жыве ў Марока. І зараз яна – яго жонка.

Аэрапорт. Апошні позірк на любыя пагоркі, лясы, лугі. Зямля ўжо схавалася за аблокамі, а яна ўсё глядзела туды...

Іншыя краявіды перад яе вачыма. Іншая мова, іншае жыццё.

Замежная пошта штодня адпраўляла лісты на Радзіму. І гэта было адзінае паветра, якім яна дыхала ў чужым краі.

Невядомая рука пісала апошнюю старонку яе жыцця. Цытую: "хворую жанчыну адвезлі ў край, дзе яна нарадзілася. За месяцы цяжкага становішча гэта былі першыя і апошнія словы, пачутыя ад хворай: Радзіма, прымай мяне!"

**Спакой**

Праз бруднае вакно міжгародняга аўтобуса дзяўчына пазнае родныя краявіды. Яна – студэнтка-першакурсніца. Першы год як выехала з хаты. Не сказаць, каб з жыллём ёй пашанцавала (сварлівая гаспадыня праз дзень наргажала выгнаць яе з пакоя немаведама за што), але вучылася яна добра.

Кожны праз гэта праходзіць, маю на ўвазе цяжкі перыяд у жыцці. Яна пакутавала. Праблемы з жыллём, грошы скралі, да таго ж пасварылася з хлопцам. А ўсё з-за таго, што замест дыскатэкі засталася ў хаце вучыць лекцыю. Зараз ехала дадому пабачыць родных ды й запасы папоўніць.

Пра праблемы думала маўчаць.

На прыпынку ўжо чакала маці. Не вытрымала. З плачам кінулася ў абдымкі. Па дарозе ўсё распавяла. Маці трымала яе тоненькую ручку і нічога не казала. І ёй было так добра і спакойна, і ёй здавалася, зноў прыйшлі тыя часы шчаслівага дзяцінства!..

Яна нахілілася да маці і ціха, каб пачула толькі яна, прамовіла: "Мама, я так цябе люблю!"



# ЯЗЭП ГЕРМАНОВІЧ
## (1890-1978)
## (да 115 годдзя з дня нараджэння)

*Каталіцкі святар усходняга абраду, манах-марыянін, місіянер, рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, удзельнік беларускага хрысціянскага руху XX ст., педагог, пісьменнік, паэт і публіцыст. У літаратурным жыцці выступаў над псеўданімам Вінцук Адважны.*

Нарадзіўся 20.02.1890 г. у мястэчку Гальшаны Ашмянскага павета Віленскай губ. Паходзіў з сялянскай сям'і: бацькі – Станіслаў і Ганна (з дому Савіцкіх) Германовічы. Вучыўся ў Гальшанскай пачатковай школе і ў гарадской школе ў Ашмянах. Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю (1913). Пасвячоны ў святары 29.06.1913. Тады ж распачаў душпастырскую дзейнасць як вікарый у мясцовасці Далістова Беластоцкага павета. Пазней працаваў у розных парафіях Беластоцкага дэканата (Беласток, Крынкі, Мсцібова, Вялікая Лапеніца). З 1921 г. – сябра Таварыства беларускай мовы. У 1924 г. уступіў у ордэн айцоў марыянаў. Служыў пробашчам у Друі, дзе адначасова выкладаў Закон Божы і лацінскую мову ў гімназіі. Шырока выступаў у беларускім перыядычным друку ("Krynica", "Chrścijanskaja Dumka"). Праследаваўся польскімі свецкімі і духоўнымі ўладамі. З 1932 г. займаўся місіянерскай дзейнасцю ў Харбіне (Маньчжурыя). На стане здароўя ў 1936 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Кіраваў у Вільні Беларускім домам марыянаў. У 1938 г. дэпартаваны польскімі ўладамі ў Цэнтральную Польшчу, адкуль у хуткім часе зноў выехаў у Харбін. У 1948 г. арыштаваны кітайскімі ўладамі і перададзены органам савецкай бяспекі. Да 1955 г. знаходзіўся ў канцэнтрацыйных лагерах у Сібіры. Пасля вызвалення быў змушаны выехаць у Польшчу, адкуль напрыканцы 1959 г. выехаў у Італію, пазней – у Вялікабрытанію. Прымаў удзел у рэлігійным і культурным жыцці беларускага замежжа. Рэдагаваў часопіс "Божым шляхам". Напісаў успаміны "Кітай – Сібір – Масква". Памёр 26.12.1978 г. у Лондане. Пахаваны на могілках св. Панкрата.

# Чэслаў Сіповіч: слова да настаўніка

Айцец Гэрмановіч, скончыўшы навіцыят, перш быў назначаны пробашчам у Друі, пасьля магістрам навіцыяту, а так жа настаўнікам закону Божага і лацінскай мовы ў гімназіі. Ён умеў узгадовываць хлапчукоў, зацікавіць іх, а асабліва ўмеў прышчэпліваць любоў да роднай беларускай мовы, якую ў Польшчы тады прасьледавалі і якой не маглі нават навучаць у самой друйскай гімназіі, дзе каля 90% вучняў былі беларусамі, а кіраўнікамі яе былі так-жа айцы Марыяне беларусы.

На жаль ня доўга працавалі разам Марыяне беларусы. У 1928 г. выехаў у Харбін Ф.Абрантовіч, а у 1932 г. яму на падмогу выехаў так-жа а. Язэп Гэрмановіч. Пасьля шматлікіх гадоў не магу забыць таго сумна-прыгожага разьвітаньня з дарагім а.Язэпам у Друі. Усе былі ўсхваляваныя, пачынаючы ад а.Цікоты, Супэрыёра Друйскага Дому, а канчаючы на наймалодшым хлапчуку з інтэрнату. Сьпявалі мы тады песьні «О край родны, край прыгожы», «Хмары хмары, што па небе носіцесь гарамі...», і іншыя. Шчымела сэрца ня толькі таму, што пакідае нас дарагі наш чалавек, які не для аднаго з нас стаўся новым бацькам, але й таму, што наша краіна траціла яшчэ аднаго сьвятара і дзеяча, якога а нельга было заступіць.

У Харбіне, хаця вонкавыя абставіны былі вельмі розныя ад тых у Друі, айцу Гэрмановічу прыйшлося рабіць тое самае па сутнасьці, што і ў Друі: узгадовываць моладзь. У суравейшым клімаце, у ўмовах не лягчэйшых, чымся ў Друі, а.Язэп выконваў абавязкі дырэктара гімназіі, спаведніка жаночых манастыроў, выхаваўцы інтэрнату, настаўніка. Усё гэта моцна падкасіла яго сілы і ў 1936 г. ён павінен быў вярнуцца на бацькаўшчыну, гэтым разам у Вільню. Тут назначаны быў кіраўніком (пасьля а.Юрага Кашыры) беларускага марыянскага Дому Студэнтаў пры вуліцы Жыгімонта. Дом гэты быў парасткам Друйскага Дому і меў за мэту прыгатаваньне будучых сьвятароў. Была моладзь, кіпела праца. Ня раз пабывалі ў тым доме беларускія сьвятары, дзеячы, мастакі і паэты. Помню адведалі нас ксяндзы Ад.Станкевіч, Ул.Талочка, Навіцкі, Семашкевіч (паэт Быліна) і іншыя. Гасьцілі ў нас так-жа Антон Луцкевіч, Трэпка, Шутовіч, Дубейкаускі, Максім Танк, Забэйда-Суміцкі.

Віленскі беларускі дом Айцоў Мары-янаў быў сапраўднай клетачкай беларускага духовага адраджэньня. Аднак праіснаваў ён толькі 3 гады. Польскія адміністрацыйныя ўлады зьнішчыўшы беларускі кляштар у Друі, не далі змогі для існаваньня так-жа віленскаму дому. Айцец Язэп Гэрмановіч і ўсе студэнты сэмінарысты ў 1938 г. былі выселеныя ў цэнтральную Польшчу. Адтуль а.Гэрмановіч ізноў праз Рым выехаў на працу ў Харбін і ізноў спаткаўся там з айцамі Абрантовічам і пасьля з Андрэям Цікота. Працуе а.Язэп аж да 1948 г., калі кітайскія камуністы разам з іншымі айцамі і настаўнікамі гімназіі яго арыштавалі і перадалі савецкаму НКВД. Падобна як і іншыя яго сябры, а.Гэрмановіч быў завочна засуджаны на 25 гадоў прымусовых лягерных работ.

Бог аднак у сваім міласэрдзі скараціў той несправядлівы сталінскі прысуд да шасьці з паловай гадоў і а.Язэп, хаця і зьнішчаны фізычна, бадзёры аднак і моцны на духу, у 1955 годзе высланы са-вецкімі ўладамі ў Польшчу. Адтуль у канцы 1959 г. удаецца яму вырвацца ў вольны сьвет. Тут ён напісаў свае "Ўспаміны" і паэтычны твор "Князь і Лапаць".

Вельмі бурлівае і цяжкое жыцьцё нашага а.Юбілята ня спрыяла яго творчасьці. Аднак ня гледзячы на ўсё, з пад яго пяра выйшла шмат твораў у форме аповесьцяў і паэзіі.

Айцец Гэрмановіч пачаў пісаць будучы яшчэ пробашчам у Вялікай Лапеніцы. Першы яго артыкул быў надрукаваны ў віленскай "Крыніцы" у 1919 г. пад назовам "Хто мы?" Быў ён падпісаны псэўдонімам "Хлопчык з пад Горадні". Пасьля таго, як стаў пісаць, здарылася яму спаткацца з



Друя. Кляштар айцоў Марыянаў

Максімам Гарэцкім.

- Ксёндз, ты мусіш пісаць! Грэх, калі ня будзеш! – сказаў ведамы пісьменьнік-крытык.

Словы Гарэцкага былі добрай заахвотай. Гэрмановіч – ён жа Вінцук Адважны – пісаў, дзе толькі быў і дзе толькі мог. Да пісаньня падганяла яго ня толькі хваля беларускага агульнага адраджэньня, але так жа патрэба ўнутраная паэты. Ён пісаў аб сабе:

"Іграю, іграці я мушу.
Тут ноты жыцьцём напісаны,
Дык будуць усе прачытаны,
Як струны жывыя парушу..."

Творчасьць Вінцука Адважнага адзначаецца моцным патрыятызмам, глыбока рэлігійным настроем. Так-жа ў ёй шмат далікатнага беларуска гумару. Дагэтуль паявіліся ў друку асобнымі кніжкамі наступныя творы:

1. Як Казюк сабраўся да споведзі, Вільня. 1928.
2. Казюковае жаніцьства, Вільня. 1929.
3. Як Гануля зьбіралася ў Аргентыну, Вільня. 1930.
4. Адам і Анелька, Вільня. 1931.
5. Канёк-Гарбунёк, Вільня. 1932.
6. Унія на Палесьсі, Вільня. 1932.
7. Бэтлейка, Вільня. 1932.
8. Беларускія Цымбалы, Вільня. 1933.
9. Хлапец, Вільня. 1936.
10. Кітай-Сібір-Масква (Успаміны), Мюнхэн. 1962.
11. Князь і Лапаць, у друку.

Аб творах пад нумарамі 1-8 знаходзім іх агляд у ўступе да кніжкі "Беларускія Цымбалы" пяра Кс. Адама Станкевіча. Ён-жа там гэтак адзываецца:

"Агулам Вінцук Адважны у сваім паэтыцкім творстве стаіць на грунце несьмяротных ідэалаў Хрыстовай рэлігіі і этыкі, як бы паказваючы гэтым найвышэйшую мэту мастацтва і поэтыцкай тэхнікі: з гэтых ідэалаў чэрпае поэтыцкае натхненьне, да іх кліча свой народ і ў іх бача непарушную веру ў пэўнае зьдзейсьненьне беларускіх народных ідэалаў, бо справа народная ў В.Адважнага гэта частка справы Божай".

Трэба заўважыць, што шмат твораў айца Гэрмановіча загінула, асабліва шкада арыгінальных ягоных баек, а так-жа тлумачэньняў Крылова, Красіцкага і іншых ведамых аўтараў. Усё, што было напісана ў Харбіне, там і асталося.

"Успаміны" былі даручаны вялікаму і Добраму Яну XXIII, каторы, калі прымаў нашага сьвятара, казаў яму: "Не ўпадзі ізноў у рукі тваіх ворагаў!.."

Спадзяёмся, што наш Юбілят, атрымаўшы благаслаўленьне ад таго-ж Папы і шмат добрых пажаданьняў з усіх куткоў сьвету, пажыве нам яшчэ і не адно напіша на славу Божую і Беларусі.

*Вучань Вінцука Адважнага [Часлаў Сіповіч]*

*Друкуецца паводле часопіса "Божым шляхам" (Лондан) 1964. № 82.*




Вокладка кнігі Язэпа Германовіча «Кітай - Сібір - Масква», перавыдадзенай да 80 гадовага юбілею кляштара Марыянаў у Друі. (Менск - Санкт-Пецярбург.2003 г.)

---

## АНТОН ПАДЗЯВА (1913-1955)

*Каталіцкі святар заходняга абраду, удзельнік беларускага хрысціянскага руху XX ст., манах-марыянін.*

Нарадзіўся ў 1913 г. у в.Перхулева Дзісенскага павета Віленскай губерні. Паходзіў з беларускай каталіцкай сям'і: бацькі – Габрыель і Марцыяна (з дому Трашчынскіх) Падзявы. Малодшы брат беларускага каталіцкага святара Тамаша Падзявы. Вучыўся ў польскай гімназіі пры Друйскім кляштары і ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Супрацоўнічаў з беларускім рэлігійным перыядычным друкам. Займаўся перакладамі з літоўскай на беларускую мовы (байка "Тры браты" і інш.). У 30-я гады – у ордэне айцоў марыянаў у Друйскім кляштары. Пасля дэпартацыі з Друі ў 1938 г. беларускіх святароў і клерыкаў жыў у кляштары айцоў марыянаў на Бялянах у Варшаве. Вучыўся ў Варшаўскай духоўнай каталіцкай акадэміі. З часоў вучобы ў Друі звязаны з беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам. Памёр у 1955 г. у мясцовасці Скужэц недалёка ад г. Сельдцы. Пахаваны на мясцовых могілках.

## ТАМАШ ПАДЗЯВА (1906 – 1975)

*Каталіцкі святар усходняга абраду, марыянін, тэолаг, місіянер, доктар філасофіі, сябра Марыянскай капітулы ў Рыме, рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, вучоны, сацыёлаг, педагог і публіцыст.*



Нарадзіўся 6 лютага 1906 г. у в.Перхулева Дзісенскага павета Віленскай губерні. Паходзіў з беларускай каталіцкай сям'і: бацькі – Габрыель і Марцыяна (з дому Трашчынскіх) Падзявы. У 1926 г. уступіў у навіцыят айцоў марыянаў у Друі. Там жа скончыў гімназію (1929). Працягваў вучобу ў папскім Грыгарыянскім універсітэце ў Рыме. Пасвячоны ў святары 23.12.1934. З 1935 г. займаўся місіянерскай дзейнасцю ў Харбіне (Маньчжурыя). Працаваў выхавацелем, прэфектам і духоўнікам у місіі св.Мікалая. Супрацоўнічаў з харбінскім місіянерскім перыядычным выданнем "Католический вестник". Напрыканцы снежня 1948 г. арыштаваны кітайскімі вайсковымі ўладамі. Перададзены органам савецкай бяспекі. Да 1955 г. знаходзіўся ў адным з канцэнтрацыйных лагераў у Тайшэце (Усходняя Сібір). Пасля вызвалення вярнуўся ў Польшчу, дзе займаўся навуковай і педагагічнай дзейнасцю. У 1969 г. выехаў у Рым, а пазней у Лондан. Прымаў удзел у рэлігійным і культурным жыцці беларускага замежжа. Выступаў на старонках эмігранцкіх рэлігійных выданняў ("Божым шляхам" і інш.), удзельнічаў у працы Беларускай секцыі Ватыканскага радыё. Памёр 2.10.1975 г. у Лондане. Пахаваны там жа на могілках Дзевы Марыі.

## ФЕЛІКС ЖУРНЯ
**(1913-1982)**

*Каталіцкі святар заходняга абраду, манах-марыянін, рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч, удзельнік беларускага хрысціянскага руху XX ст., гісторык, публіцыст, бібліяфіл, педагог.*

Нарадзіўся 20.06.1913 г. у в.Зарэчча на Браслаўшчыне. Паходзіў з сялянскай сям'і беларусаў-католікаў. У 1927 г. паступіў у Друйскую гімназію пры кляштары беларускіх айцоў марыянаў. У час вучобы з асаблівай павагай ставіўся да настаўніка і духоўнага апекуна святара Я.Германовіча З 1932 г. – у ордэне айцоў марыянаў. Пасля заканчэння гімназіі разам з іншымі беларускімі клерыкамі прадоўжыў вучобу ў Вільні, дзе паглыбляў свае веды па тэалогіі і філасофіі. У 1938 г., пасля дэпартацыі польскімі ўладамі беларускіх святароў і клерыкаў з Друйскага кляштара айцоў марыянаў, пераехаў у Варшаву. Там прадоўжыў вучобу. Пасвячоны ў святары ў 1943 г. Да 1966 г. праводзіў душпастырскую працу ў Польшчы пры марыянскіх кляштарах выконваў абавязкі шпітальнага капелана і магістра навіцыята. Служыў пры капліцы сясцёр Міласэрнасці ў парафіі Гара Кальварыя Варэцкага дэканата. Пасля заснавання ў Варшаве Беларускага грамадска-культурнага таварыства прымаў удзел у яго пасяджэннях і культурна-нацыянальных нарадах. У 1966 г. па ініцыятыве і пры падтрымцы беларускіх святароў пераехаў у Вялікабрытанію. Супрацоўнічаў з беларускім рэлігійным часопісам "Божым шляхам". Выступаў на яго старонках з артыкуламі тэалагічнага і культурна-асветнага характару. Даследаваў гісторыю беларускіх рэлігійных выданняў XIX – XX стст. Дзейны сябра Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі. У апошнія гады душпастырскай дзейнасці быў абраны суперыёрам Беларускага дома марыянаў у Лондане. У складзе беларускай дэлегацыі святароў 29.11-05.12.1982 г. знаходзіўся ў Ватыкане. 01.12.1982 г. на аўдыенцыі у папы Іаана Паўла II браў удзел у абмеркаванні пытання пра стан каталіцкай царквы і пастырскай працы сярод беларусаў на бацькаўшчыне і ў эміграцыі. Неўзабаве пасля вяртання з Рыма раптоўна памёр 11.12.1982 г. у Лондане.

## МІХАІЛ ДАЛЕЦКІ
**(1884-пасля 1939)**

*Каталіцкі святар заходняга абраду, ганаровы канонік Пінскай кафедральнай капітулы, удзельнік беларускага хрысціянскага руху XX ст., душпастыр.*

Нарадзіўся 11.08.1884 г. у в.Абабы Слабодскай воласці Новааляксандраўскага павета Віленскай губ. Паходзіў з сялянскай сям'і: бацькі – Ігнат і Іаанна (з дому Багародзяў) Далецкія. Атрымаў хатнюю адукацыю. Здаў экзамен на атэстат сталасці пры Кадэцкім корпусе імператара Аляксандра II у Пецярбургу. У 1904 – 1909 гг. вучыўся ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу. Пасвячоны ў святары 19.05.1909 г. біскупам С.Данісевічам у Пецярбургу. Першыя гады душпастырскай дзейнасці правёў на пасадзе вікарыя ў Пінску. У 1911 г. – адміністратар Старчыцкай парафіі Слуцкага дэканата. На ўрачыстасцях з нагоды ўзвядзення ў сан біскупа Ф.Карэвіча ў 1914 г. выступіў па пытанні ўжывання беларускай мовы ў касцёле. Карэспандаваў і матэрыяльна падтрымліваў выданне першай беларускай каталіцкай газеты "Bielarus". З 1924 г. – на пасадзе пробашча ў парафіі Уселюб Пінскай дыяцэзіі. У 1933 г. прызначаны пробашчам і дэканам у Навагрудак.

*Матэрыялы пра Я.Германовіча, а таксама пра святароў з Браслаўшчыны друкуюцца паводле выдання: Ю.Гарбінскі. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. Мінск-Мюнхен. 1999 г.*

**Сяргей Ёрш**

# ЗАБЫТЫ ПАЭТ З БРАСЛАЎШЧЫНЫ

Калісьці, у размове зь беларускім дзеячом з Варшавы сьв. Пам. Янкам Жамойціным, я пачуў прозьвішча паэта Язэпа Пабяржына. Зь ім ён пазнаёміўся ў савецкім лягеры ў Казахстане ў пачатку 1950-х гадоў.

Пра Пабяржына я чуў і раней, ад былога сябры Саюзу беларускай моладзі і Беларускай незалежніцкай партыі Віктара Сікоры з-пад Шаркаўшчыны. Толькі памылкова ён яго называў Пабяржой – быў зь ім мала знаёмы. Паводле Сікоры, Пабяржа паходзіў з Браслаўшчыны (Жамойцін, відаць, памылкова называў Глыбоччыну), там жа ён дзейнічаў падчас нямецкай акупацыі. Вясной 1944 г. Язэп Пабяржын некалькі месяцаў займаўся на менскіх курсах вышэйшых кіраўнікоў СБМ, быў прыняты ў сябры падпольнай БНП. Магчыма, нават быў кіраўніком Браслаўскай суполкі гэтай нацыянальнай партыі. Летам 1944 г. Пабяржын, разам з сябрамі, падаўся на Захад, але не спыніў свайго ўдзелу ў беларускім вызвольным руху. Ва Ўсходняй Прусіі ён уступіў у беларускі дэсантны батальён "Дальвіц", які нямецкая вайсковая разьведка рыхтавала для закідкі ў БССР – для разгортваньня антысавецкага партызанскага руху.

У вольны час "камандас" Пабяржын піша вершы, чытае іх сябрам. Пра першы публічны ягоны выступ 10 сьнежня 1944 г. пісала бэрлінская беларуская газэта "Раніца", схаваўшы прозьвішча паэта пад крыптанімам "П": "Кожны верш хоць і малады формаю, нерапоўнены гэтак сама маладым фанатычным пачуцьцём і ідэяю змаганьня і перамогі".

Не паверым мы болей нікому.
Не падманіць нас болей ніхто.
На сябе маем толькі надзею
І на сьцяг наш з Пагоняй сьвятой, - чытаў

Пабяржын адзін са сваіх баявых вершаў.

Альбо такія радкі:

Толькі той беларус, хто ў хаосе
Разбурэньня імпэрый гнілых,
Жне нястомна буйныя калосьсі
Для вызвольных ідэяў сьвятых.

На ягоныя вершы былі напісаныя некалькі вайсковых песьняў, што сьпявалі жаўнеры дэсантнага батальёну.

У траўні 1945 г. беларускія вайскоўцы "Дальвіца" здалі зброю чэскім партызанам, а самыя групамі прабіраліся на Захад альбо ў Польшчу. Язэп Пабяржын выбраў апошні варыянт – ён хацеў праз Польшчу вярнуцца на Бацькаўшчыну, каб змагацца за волю і незалежнасць Беларусі. У чэрвені 1945 г. ён бярэ ўдзел у тайнай нарадзе кіраўнікоў БНП у Варшаве (прысутнічалі: Мікола Шкялёнак, Усевалад Родзька, браты Лявон і Юрка Луцкевічы). Неўзабаве адбыўся правал і многія сябры БНП, якія знаходзіліся ў Польшчы, былі арыштаваныя. Магчыма, тады трапіў у рукі чэкістаў і Пабяржын. Але не выключана, што ён мог быць арыштаваны пазьней, ужо на тэрыторыі Беларусі. Я. Пабяржын быў асуджаны, тэрмін адбываў у Казахстане. Там, у лягеры для інвалідаў і непрыдатных да працы вязьняў у Спаску, яго сустрэў таксама сябра БНП Янка Жамойцін. Праз дзесяцігодзьдзі ён напіша ў сваіх успамінах такія радкі: "Іншым вельмі цікавым хлопцам быў Юзік Пабяржын ... Былы вайсковец – змагар за незалежнасьць, паэт, прынцыповы ў сваіх пераканьнях і незалежнасьці думак, неразрыўны спадарожнік сваёй паэтычнай музы. Думкі яго, гнаныя

пачуццямі, плылі так хутка, што найспраўнейшая рука не пасьпявала замацоўваць іх на паперы".

Жамойцін казаў мне, што мае ў сваім архіве вершы Пабяржына. Думаў я, што яшчэ пасьпею зрабіць для сябе копію, але Жамойцін раптоўна памёр. Урыўкі з гэтых вершаў ён уставіў у свае ўспаміны.

Вакол няволя, у небе сінь туманаў
Уткала ясных зорак вугалькі.
Калючым дротам доля закранана:
Агні, сабакі, вышкі ды стралкі.

Сігнал адбою зрэйкі заржавелай
Загнаў сяброў на нары ў барак
І я адзін з душою набалелай
Сачу як тухне бледная зара.

За сплётам дроту ў стэпавай далі
Шакалы вылі жудасным выцьцём.
А мне здалося, там лямантавалі
Над маім юным стоптаным жыцьцём.

Мне стала жаль, што вяну не дасьпеўшы,
Што марна гіну ў зьдзеку і нудзе,
Што ўжо не ўбачу гадоў ласкавейшых
І тут бясьсьледны сьлед мой прападзе.

У лягеры ў Пабяржына было падарванае здароўе. Паводле Жамойціна, прычынай быў працяглы высокі ціск крыві. "Атэрасклероз асабліва заатакаваў сасуды ног і пагражаў ампутацыяй ці гангрэнай, што для яго ня было таямніцай" – успамінаў Жамойцін. Яле Язэп Пабяржын у гэтай сітуацыі не адчайваўся, працягваў пісаць вершы, у якіх "бічаваў савецкую імпэрыю і навакольніцкі, антычалавечы лад яе, апяваў красу роднае мовы і краіны і драму суайчыньнікаў". Вершы паэта дапамагалі перахоўваць ягоныя сябры-беларусы. У 1956 г., выходзячы на волю, Янка Жамойцін здолеў вынесьці з сабой зь лягера і частку паэтычных твораў Пабяржына. Больш яго ён ніколі не бачыў.

Вядома, што ў пачатку 1956 г. у лягер у Спаску прыехала камісія для перагляду справаў палітзняволеных. Быў выкліканы для размовы і Пабяржын. Ён не хаваў сваіх поглядаў і проста ў вочы заявіў савецкім пракурорам, што ня бачыць за сабой ніякай віны і калі толькі здарыцца магчымасць, "аддасьць усе сілы барацьбе за незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны". У выніку, язэп Пабяржын быў прызнаны "*неисправимым*" і застаўся ў лягеры. Пра ягоны далейшы лёс нічога невядома. У выпадку, калі ён выжыў у лягерах, мог вярнуцца ў свае родныя мясціны – на Браслаўшчыну. Адзін чалавек, які быў зь ім знаёмы падчас вайны, нядаўна распавядаў мне, што гадоў 10-15 назад, нібыта, бачыў падобнага на яго чалавека ў Браславе. Але ці быў гэта Язэп Пабяржын, невядома.

Кастусь Шыдлоўскі

# ДЗМІТРЫЙ ПУЧЫНСКІ

Адным з беларускіх дзеячаў Браслаўшчыны з'яўляецца Дзмітрый Пучынскі – настаўнік, паэт, актыўны селькор. Яго імя аказалася амаль забытым, а творчая спадчына здавалася страчанай.

У выніку пошукаў музей змог сабраць некалькі апублікаваных у "Браслаўскай звяздзе" вершаў. У в.Баркунішкі, дзе апошнія гады правёў бацька Дз.Пучынскага, удалося пазбіраць рэшткі архіва (большая частка папер была знішчана новымі ўладальнікамі хаты). Нядаўна Купчэльская школа перадала музею стос матэрыялаў, звязаных з імем Дз.Пучынскага. Сярод іх – рукапісы вершаў, замалёўкі, дакументы, фотаздымкі. Цяпер з'явілася магчымасць аднавіць асноўныя моманты біяграфіі гэтага адоранага чалавека, скласці ўяўленне аб яго творчым даробку.

Нарадзіўся Дзмітрый Пучынскі 2 лістапада 1923 года ў вёсцы Каліты Мяжанскага сельсавета. Бацька - Іван, праваслаўны селянін з вёскі Ісаі каля Богіна, 1896 г. нараджэння, маці - Стэфаніда з дому Пятроўскіх. Адукацыю Дз.Пучынскі атрымаў у польскіх школах. Маюцца яго пасведчанні Каліцкай, Мяжанскай і Дрысвяцкай школ. Сямігадовую адукацыю ён акурат завяршыў у 1939 г., перад зменай уладаў. Марыў атрымаць мастацкую адукацыю, бо з маленства меў схільнасць да малявання, але асноўнай перашкодай была беднасць і дрэнны стан здароўя.

Дз.Пучынскі быў сярод тых, хто вітаў надыход Чырвонай Арміі, з вязваў з новай уладай надзеі. 20 верасня ён сустракаў савецкіх салдат у сваіх Калітах. Адразу ўключыўся ў грамадскае жыццё, стаў адным з першых камсамольцаў Мяжанскага сельсавета. У сакавіку 1940 г. закончыў шасцімесячныя педагагічныя курсы ў Браславе і стаў працаваць у пачатковых класах.

Перыяд акупацыі правёў у роднай вёсцы. Захаваў некалькі камуністычных кніжак, якія пасля вайны здаў у бібліятэку. Пасля вызвалення ў 1944 г. па загаду камітэта камсамола займаўся арганізацыйнай працай у Карасінскім і Мяжанскім сельсаветах, пазней завочна вучыўся ў Полацкім педтэхнікуме. Працаваў настаўнікам малявання ў Опсаўскай школе (1944 г.), загадваў Станкавіцкай школай (1945 г.), выкладаў у Каліцкай (1946 – 1947 гг.) і Мяжанскай школах. Тым часам у яго развівалася небяспечная хвароба – сухоты. Працу ў школе давялося пакінуць. У 1956 г. прызнаны інвалідам, у 1965 г. атрымаў пенсію па інваліднасці, а 26 снежня 1967 года Дзмітрыя Пучынскага не стала.

Сярод папер сямейнага архіва захаваўся ліст вядомага мастака, нараджэнца Браслаўшчыны Пётры Сергіевіча да бацькі Дзмітрыя, напісаны неўзабаве пасля яго смерці. З ліста вынікае, што П.Сергіевіч і Дз.Пучынскі доўга перапісваліся, але сустрэцца не паспелі. Дарэчы, Пётра Сергіевіч з маленства ведаў маці Дзмітрыя. Дзмітрый Пучынскі ўсведамляў сябе беларускім інтэлігентам, цягнуўся да беларускага пісьменства, сам шукаў шляхоў да творчасці. Захаваліся яго спробы пяра ў прозе, вершах.




Дз.Пучынскі. Аўтапартрэт

Яшчэ ў 1944 годзе ён прапанаваў свае вершы ў беларускую газету "Раніца", якая выходзіла пры нямецкіх уладах. Рэдакцыя газеты іх не апублікавала, адзначыўшы іх слабасць. Гэта не расчаравала пачаткоўца. Вершы Дз.Пучынскі пісаў да канца жыцця. Дачакаўся публікацыі некаторых з іх. У 1959 годзе заняў трэцяе месца ў жанры "Верш" у конкурсе, абвешчаным раённай газетай. У пасляваенныя гады Дз.Пучынскі быў адным з актыўных селькораў Браслаўшчыны. Яго публікацыі часта з'яўляліся на старонках раённай газеты, газет, што выходзілі ў Полацку, Маладзечне, Віцебску, Мінску. Аўтар уздымаў надзённыя праблемы вёскі, вольнага часу моладзі, праблемы транспарту і г.д., пісаў пра цікавых людзей. Цікавіўся літаратурным працэсам у Беларусі. Сярод публікацый Дз.Пучынскага – водгук на першы зборнік Уладзіміра Караткевіча "Матчына душа" (1959 г.), водгукі на творы У.Дубоўкі, Я.Брыля.

Дакумент праўлення Саюза пісьменнікаў БССР 1950 года сведчыць, што Дз.Пучынскі ўдзельнічаў у нарадзе маладых пісьменнікаў. Многія творы паэта сведчаць аб яго несумненнай здольнасці да паэзіі. Але аб гэтым няхай мяркуе чытач па той падборцы, якую мы змяшчаем у нумары.

Яшчэ адным захапленнем Дзмітрыя было маляванне. Захавалася некалькі дзе-сяткаў аркушаў з яго малюнкамі, у асноўным партрэты тых людзей, з якімі аўтар сутыкаўся. Адразу бачны іх непрафесіяналізм, але адчуваецца і прыродная адоранасць аўтара, якой не было наканавана развіцца.

Дзмітрый Пучынскі рана пайшоў з жыцця, але пакінуў у ім свой след. Ён заслугоўвае павагі як любы творца, які насуперак лёсу імкнецца перадаць іншым часцінку сваіх душэўных памкненняў.

* * * * *

### З успамінаў юнацтва

Помню браслаўскі узгорак пакаты,
Яхты на возеры сінім Дрывяты.
Белыя ветразі, цёмныя хвалі,
Чайкі над плёсам у высі ныралі...
Хтосьці катаўся,
З русалкамі знаўся –
Я адзінокі стаяў,
Любаваўся.
Я сарамліва,
Натхнённа,
Віхрасты
Ўсё замалёўваць прысаджваўся
часта.
З тога узгорка,
Дзе хвоі з ядлоўцам
Пахнуць смалою,
Праменнямі сонца.

1963 г.

### Валуны каля возера Рыча

Убок ударыць хваля з мелі
(Дрыжыць і бераг і зямля),
Каб разбудзіць іх, ды не ўмее
Граніт застыглы размаўляць.
І валуны ляжаць валамі
Здаўна ля сіняе вады.
Зубры таёжнымі шляхамі
Ішлі на вадапой сюды.
Будзілі далеч гнеўным рыкам
І скамянелі тут навек,
І возера з пары той Рычам
Назваў тутэйшы чалавек.

1963 г.

### Гудзе азёрны лёд

Гудзе азёрны лёд –
Стары ўцякае год.

Уцякае ў забыццё:
Прайшло яго жыццё,

Праз лёд і праз снягі
Ступае год другі –

Вясёлы, малады;
Яго на ўсе лады

Ля ёлак аж да зор
Услаўляе школьны хор.

Акорды ўвысь ляцяць,
Агні ў сяле гараць...

Ступае новы год,
Гудзе азёрны лёд.

1964 г.



**Гэты фотаздымак яшчэ трэба разгадаць. Дзмітрый Пучынскі стаіць справа ад жанчыны. Нарада маладых літаратараў?**

**« ПАВЕТ »  DISTRICTUS**
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
*г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28*
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам *працавалі:* Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Пастава)